ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 15 ліпеня 2000г.

№ 54 (8123)

*Раённая грамадска-палітычная газета*

*Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР*

Цана 24 руб.

## ЗА ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

Становішча спраў з разлікамі за энергарэсурсы ў нашай краіне ў студзені-маі гэтага года абмеркавана 11 ліпеня на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў. На ім, у прыватнасці, было адзначана, што меры, якія прымаюцца, далі некаторыя станоўчыя вынікі. І ўсё ж асобныя арганізацыі пакуль што не ўносяць поўную аплату за бягучае спажыванне энергарэсурсаў і не пагашаюць запазычанасць, якая ўтварылася на 1 студзеня 2000 года. Так, па стану на 1 чэрвеня доўг спажыўцоў рэспублікі за прыродны газ склаў 205 мільярдаў рублёў, за электрычную і цеплавую энергію, што адпускаецца ад крыніц канцэрна "Белэнерга", — амаль 102 мільярды рублёў, асноўнай прычынай гэтага, на думку ўдзельнікаў пасяджэння, з'яўляецца адсутнасць строгага патрабавання ад кіраўнікоў і парадку ва ўзаемаразліках.

**БелТА.**

## ЗДАЎ ЦЯЛЯ — АТРЫМАЙ СЕНА

Многія жыхары гарадскога пасёлка на асабістым падвор'і трымаюць кароў. У двух гуртах, Селіцкім і Хаміцкім, пасвіцца звыш дзвюхсот галоў. Дзе ж бяруць сена гараджане, каб трымаць жывёлу? Адказаў на гэта пытанне некалькі. Адны, маючы ў сваім карыстанні да гектара і больш зямлі, адводзяць пад сенажаць сотак 70-80. З двух укосаў можна атрымаць да трох тон сена. Толькі, як гаворыцца, не лянуйся. Другія гаспадары купляюць сена ў фермераў, у іншых грамадзян. А ёсць і такія, што здаюць сваіх цялят не прадпрымальнікам, а ў саўгас імя Кірава. Здаюць на такіх умовах: я табе цяля, ты мне сена.

Вось і сёлета саўгас па такой дамоўленасці прыняў ад жыхароў раёна 77 цялят. У залежнасці ад вагі здадзенага цяляці і выдзялялася плошча. У сярэднім на кожнага гаспадара выйшла па 6-7 рулонаў якаснага сена.

Трэба адзначыць і яшчэ адзін важны момант. Саўгас традыцыйна не толькі скасіў травы, а і выдзеліў варушылкі, прэс-падборшчыкі, пагрузчыкі. Атрымалася, што людзі за 5-6 дзён (перашкодзіў дождж ык) убралі свае рэзкі, звезлі з поля рулоны, справіліся ўладкаваць іх да апошняга ліўня.

Учора камісія саўгаса імя Кірава дзяліла сенажаці тым гаспадарам (па 20 сотак), якія сваіх цялят здалі за грошы. Маецца на ўвазе не за натуральную плату.

**Пятро СУРЫНОВІЧ.**

## ШЫРОКІМ ФРОНТАМ

У апошнія два месяцы шырокім фронтам вядуцца будаўнічыя работы па пракладцы трубаправода для падачы прыроднага газу ў домаўладанні кіраўчан. Займаецца гэтай справай спецыялізаваная брыгада мантажнікаў з ТАА "Асіповічыгазбуд". За прайшоўшы перыяд пракладзена 1,8 кіламетра газаправода вялікага дыяметру па вул.Першамайскай, завулку імя Мельнікава, часткова па вул.Юбілейнай з тым, каб у далейшым жадаючыя кааперавaліся і падводзілі ў свае домаўладанні танны прыродны газ. Пракладзены па вул.Камсамольскай, Пушкінскай, імя Фрунзе трубаправод даўжынёй 1,1 кіламетра дасць магчымасць перавесці на прыродны газ дамы №№8, 9 па вул.Пушкінскай, №№44, 50 па вул. Камсамольскай, у перспектыве — падвядзенне таннага паліва да кааператыву "Згода" па вул. імя Кірава.






З-за адсутнасці сродкаў у раённым бюджэце немагчыма далей працягваць работы па пракладцы трубаправода за дзяржаўны кошт, таму жадаючыя жыхары па вул. Юбілейнай, імя Мельнікава, Заводскай, Будаўнікоў, Пясчанай, Паўночнай, Першамайскай, Фрунзе, Камсамольскай, Пушкінскай і іншых могуць кааперавацца і падводзіць газ да сваіх дамоў за ўласныя сродкі, як гэта зрабілі жыхары пяці Першамайскіх завулкаў.

Мантажнікі разумеюць, як чакаюць кіраўчане прыходу газу ў іх дамы, таму імкнуцца максімальна выкарыстоўваць рабочы дзень. На пракладцы траншэй заняты экскаватаршчык з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага А.І.Бяляўскі, які значна перавыконвае даведзеныя заданні. Старанна ўкладвае трубы ў траншэі кранаўшчык А.І.Шапоткін, які да выхаду на заслужаны адпачынак доўгі час працаваў на прадпрыемстве меліярацыйных сетак. Выдатна зварвае трубы асіпаўчанін газазваршчык VI разраду А.М.Астапаў, які неаднойчы выходзіў пераможцам у рэспубліканскім спаборніцтве "Лепшы па прафесіі". Добрасумленна ставіцца да выканання заданняў слесар С.У.Кузьменка.

**На здымках:** ***прараб ТАА "Асіповічыгазбуд" Ю.С.Мірончык і інжынер раёна газазабеспячэння В.І.Аўсянік абмяркоўваюць праект; вядзецца мантаж газаправода.***

## СТВОРАНЫ ЦЭНТР СУТАЧНАЙ РЭАБІЛІТАЦЫІ

Практыка сведчыць, што вельмі часта заложнікамі экстрэмальных сітуацый з'яўляюцца дзеці. Фактаў на гэты конт хоць адбаўляй. П'е адзін з бацькоў, другі з іх хоць якнебудзь ды прыгледзіць сваіх нашчадкаў. Калі п'юць абодва, у доме няма кавалка хлеба, дзеці пакінуты без нагляду, бадзяжнічаюць, папрашайнічаюць, начуюць дзе ўздумаецца. Многія з такіх рабят, каб хоць неяк пракарміцца, становяцца на шлях злачынства. Характэрна, што сярод падобнага кантынгенту часта сустракаюцца асобы, якія прытрымліваюцца традыцый сям'і, калі яе так можна назваць, — п'янствуюць. А ад шклянкі віна да наркотыкаў, як вядома, — адзін крок.

Часам, дзеці не вытрымліваюць грубасці, жорсткасці, якія пераважаюць у зносінах паміж дарослымі і імі, і шукаюць паратунак за парогам дома: адпраўляюцца да далёкіх родзічаў, знаёмых, а то і проста вандруюць ад станцыі да станцыі, ад горада да горада. Вандруюць да той пары, пакуль не апынуцца ў дзіцячых размеркавальніках. Дзеці ў цяжкіх сем'ях растуць з адхіленнямі ў фізічным і псіхічным развіцці, ім патрабуецца медыцынская і іншая кваліфікаваная дапамога. Каб неяк аблегчыць лёс такіх падлеткаў, старшыня райвыканкама А.С.Сцяпанчанка падпісаў распараджэнне аб стварэнні на базе раённай бальніцы цэнтра для іх сутачна рэабілітацыі. Для паступаючых асоб указанай катэгорыі прадугледжана гарачае харчаванне, зарэзерваваны 2-3 ложкі ў аддзяленні медыцынскай рэабілітацыі. Зацверджаны і спіс адказных работнікаў арганізацый і службаў, якія будуць аказваць неабходную дапамогу дзецям і падлеткам. Гэта інспектар па праблемах сям'і аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва А.М.Арцямкова, адказны сакратар камісіі па справах непаўналетніх пры райвыканкаме Т.Р.Баранава, інспектар па выхаваўчай рабоце аддзела адукацыі В.У.Іваніцкая, старшы інспектар інспекцыі па справах непаўналетніх райаддзела ўнутраных спраў М.А.Каранкевіч, інспектар па ахове правоў дзяцінства аддзела адукацыі райвыканкама С.М.Токарава.

Падлеткам, якія трапілі ў экстрэмальныя сітуацыі, бацькам, якім патрабуюцца кваліфікаваныя кансультацыі юрыста, сацыёлага, педагога, урача, просім звяртацца на адрас: г.п.Кіраўск, вул. Арлоўскага, 47. Тэлефон 23-4-53.

Актуальна

## БЕСКУЛЬТУР'Е — НОРМА ЖЫЦЦЯ?

У кожным высока развітым мегаполісе і ў невялічкім правінцыяльным гарадку ці пасёлку ёсць вуліца, якая з'яўляецца яго своеасаблівай візітнай карткай, часцей за ўсё гэта цэнтральная. Наша візітная картка — вуліца імя Кірава. Згадзіцеся, вельмі прыгожая яна — добраўпарадкаваная, чыстая, дагледжаная. Адміністрацыйныя будынкі і дамы патанаюць у зеляніне каштанаў, уздоўж шашы — кустоўе, дрэвы пабелены, гандлёвыя кропкі ярка пафарбаваны. Пра тое, што цэнтр нашага гарадскога пасёлка і ўвогуле ўвесь ён — прыгожыя і ўтульныя не раз даводзілася чуць і ад прыязджаючых сюды ў госці і праязджаючых міма людзей. Зразумела, што гэтыя парадак і ўтульнасць не з'явіліся самі па сабе: тут прыклалі свае рукі работнікі камунальнай службы, райспажыўтаварыства, іншых арганізацый і прадпрыемстваў. Але, на жаль, не ўсе кіраўчане цэняць іх працу, аб чым сведчаць вось такія непрыглядныя факты. Усё часцей раніцай можна ўбачыць кучы шалупіння ад семачак ля лавак, якія ўстаноўлены ў розных месцах цэнтральнай вуліцы, дзе напярэдадні ўвечары бавіла час моладзь. "Семачкавая эпідэмія" захлынула многіх, гэты прадукт цяпер можна купіць у любы час сутак: удзень — на базары ці каля аўтастанцыі, познім вечарам — на "точках". Гандляваць ім, калі на тое ёсць адпаведныя дакументы, нікому не забараняецца. Размова не аб гэтым. А аб тым, што семачкі ўжываюцца дзе прыдзецца і, адпаведна, шалупінне выплёўваецца дзе прыдзецца. Літаральна патанае ў ім дзіцячай пляцоўка ў парку ля раённага Дома культуры (паралельна з паяданнем семачак спусташаюцца бутэлькі са спіртным і пакідаюцца тут жа, бязлітасна ламаюцца арэлі). Засмечваецца тым жа шалупіннем тэрыторыя вакол узводзячагася ля кінатэатра "Кастрычнік" мемарыяльнага знака ў гонар воінаў-кіраўчан, выканаўшых інтэрнацыянальны абавязак пры ліквідацыі лакальных канфліктаў. Калі ў іншых выпадках заплёўванне і засмечванне тэрыторыі цэнтральнай вуліцы — гэта проста бескультур'е, то тут, ля мемарыяльнага знака — сапраўднае кашчунства. А як жа інакш назваць падобную абыякавасць у свяшчэнным месцы, дзе аддадзена даніна павагі тым нашым землякам, якія сумленна выканалі свой воінскі абавязак?! Хлопцы ж, якія бавяць тут час, яшчэ, як гаворыцца, і пораху не нюхалі, дзе ж павага і ўвага да тых, у каго за плячамі выпрабаванні сапраўднай вайны?

Лузаць семачкі і пляваццa шалупіннем у грамадскіх месцах у прынцыпе заўсёды лічылася верхам бескультур'я. Згадзіцеся, не вельмі прыемна пазіраць на модна апранутую, прыгожую дзяўчыну, якая плюецца налева і направа. А такая карціна сёння — з'ява тыповая. Ну, дарагія мае, не вярблюды ж мы нейкія, у якіх генетычна закладзена гэтае харканне, а "чалавекі"!

(Заканчэнне на 2-й стар.).

*✱ Вы прасілі разабрацца*

## ПРА ЯКАСЦЬ ХЛЕБА

**Днямі ў рэдакцыю звярнуўся жыхар райцэнтра А.П. Маглюй са скаргай на дрэнную якасць хлеба, выпякаемага камбінатам грамадскага харчавання. Як паведаміў наш чытач, куплены ім у кулінарыі хлеб, які каштуе 230 рублёў, нельга есці, таму ён вымушаны быў занесці буханку на праверку ў раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.**

Мы звярнуліся да памочніка ўрача-гігіеніста харчавання К.Л.Іваніцкай, якая займалася вырашэннем гэтага пытання. Яна, у прыватнасці, паведаміла: "Скарга мела месца. Пры праверцы хлебабулачнага вырабу, які прадаставіў на праверку А.П.Маглюй, устаноўлена: пшанічны хлеб пашкоджаны бульбяной хваробай, якая выклікае развіццё ў мякішу хлеба хуткаўтвараючыхся бактэрый бульбяной палачкі, распаўсюджанай у прыродзе, глебе. Яна трапляе ў муку пры размоле зерня. Тэрмаўстойлівасць споры бульбяной палачкі не губляецца пры выпечцы хлеба, таму ў далейшым пры спрыяльных умовах пачынае праяўляць сваю жыццядзейнасць. Аптымальнай ўмовай для развіцця спор з'яўляецца тэмпература 30-40 градусаў. Клеткі бульбяной палачкі не вытрымліваюць награвання да 80 градусаў, а споры застаюцца жыццядзейнымі нават пры 120 градусах на працягу гадзіны. Таму бактэрыі у час выпечкі хлеба гінуць, а споры застаюцца жыццяздольнымі.

Пашкоджаны бульбяной хваробай пшанічны хлеб (ржаны не пашкоджваецца) мае непрыемны пах, ліпкі мякіш, які пры моцным пашкоджанні цягнецца ніткамі.

Захворванне пшанічнага хлеба бульбяной хваробай мае месца ў цёплы час года — з 1 мая па 1 кастрычніка.

Трэба заўважыць, што ўсе разнастайнасці бульбяной палачкі не патагенныя для чалавека, але хлеб, пашкоджаны хваробай, не прыгодны для ўжывання ў ежу. Таму камбінату грамадскага харчавання забаронена ў далейшым выпякаць хлеб.

Разам з тым хацелася б адзначыць, што набытая камбінатам мука мае сертыфікат якасці, у якім указана, што праз 24 гадзіны мука не мае праяўленняў захворваемасці бульбянай палачкай. Таму, улічваючы ўсе тэхналагічныя працэсы, неабходна выпякаць пшанічныя вырабы вагой не больш 200 грамаў. Пры гэтым яны будуць добра выпякацца, хутчэй выкарыстоўвацца ў ежу.

Кожны чалавек павінен ведаць, што тэрмін захоўвання хлеба — 24 гадзіны. Пажадана захоўваць яго ў халодным месцы".

З прэтэнзіяй нашага чытача мы звярнуліся да загадчыка вытворчасці камбіната грамадскага харчавання В.І.Дваракоавай. Яна згадзілася з крытыкай, пры гэтым заўважыўшы, што такая праблема ўзнікае кожны год у гарачы час, які спрыяе развіццю ў мякішу пшанічнага хлеба бульбяной палачкі. Для яго захоўвання пасля выпечкі неабходная ахалоджваючая камера. Зараз тут заняты распрацоўкай выпечкі дробнаштучных вырабаў.

Пры размове з адказнымі асобамі была таксама звернута ўвага наогул на невысокую якасць нашых хлебабулачных вырабаў, у прыватнасці, хлеба і батонаў, выпякаемых на камбінаце кааператыўнай прамысловасці, якія часам не ідуць ні ў якое параўнанне з бабруйскімі. Прычына гэтага тут бачыцца толькі ў дрэнай якасці мукі, а тэхналогія выпечкі ў нас і бабруйчан аднолькавая. Вельмі хацелася б верыць у гэта, бо кошт хлебабулачных вырабаў значны, і, набыўшы іх у гандлёвых кропках, не вельмі прыемна выкідваць на памыйніцу .

**Запісала Таццяна БАРАДЗІНА.**

# БЕСКУЛЬТУР'Е — НОРМА ЖЫЦЦЯ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Культура паводзін выхоўваецца з малых гадоў, перш за ўсё, у сям'і. Таму і карані бескультур'я — там жа. Але як бы там ні было, большасць з нас не кідае смецце і шалупінне ў сваім доме ці кватэры прама на падлогу. А вуліца — наш агульны дом, яго таксама трэба ўтрымліваць у чысціні. Не дзеля таго, каб хваліцца гасцям — для нас саміх. Калі ўжо захацелася камусьці палузаць тыя ж семачкі на вуліцы, можна шалупінне складаць у папяровы кулёк, кулак, выкідваць у кантэйнеры для смецця... Ды і што тут тлумачыць — гэта ж банальная ісціна. Проста ў некаторых юнакоў і дзяўчат утрыманцкі светапогляд: маўляў, хтосьці зрабіў для іх прыгажосць і чысціню, хтосьці павінен і ўбіраць.

Наша моладзь у адзенні, танцах, прыхільнасці да музыкі жадае выглядаць цывілізавана, культурна, дык трэба ж ужо да канца гэты імідж захоўваць! У нашых вялікіх гарадах, а тым больш за мяжой не пабачыш, каб нехта кідаў смецце ці лузаў семачкі, выплёўваючы шалупінне на тратуар...

Ды і не толькі семачак гэта датычыцца, а і паперы ад марожанага, іншай тары, бутэлек...

Спадзяемся, што прачытаўшы гэтыя радкі і пазнаўшы сябе ў іх, многія задумаюцца над сваімі ўчынкамі. А калі не — можам нагадаць: у Кодэксе Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных правапарушэннях" існуе артыкул 143, якім прадугледжана адказнасць за парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў, у прыватнасці, утрымання ў чысціні вуліц і прыдамавых тэрыторый. Падобныя дзеянні караюцца штрафам. Так што калі вы надумалі смецціць на вуліцы, любы супрацоўнік міліцыі ( і ім трэба больш актыўна дзейнічаць у гэтым плане) можа скласці на вас пратакол. Тады ўжо грошы прыдзецца выкласці на штраф, і не хопіць іх ні на дыскатэку, ні на тыя ж семачкі.

**Наталля ХАДАКОВА.**

*Як вас абслугоўваюць*

# УВАЖЛІВАЯ І ЧУЛАЯ

Пасля заканчэння мясцовай дзесяцігодкі Іна Яўгенаўна Аўсянік уладкавалася на працу паштальёнам ў Любоніцкае аддзяленне сувязі. З таго часу прайшло ўжо дзевяць гадоў. За гэты перыяд маладая жанчына назапасіла пэўны вопыт у рабоце, таму з ускладзенымі на яе абавязкамі спраўляецца паспяхова.

Іна Яўгенаўна — уважлівая і чулая ў абыходжанні з людзьмі, асабліва з састарэлымі. Да іх яна заходзіць пастаянна: то пенсію прынясе, то нагадае пра аплату за электраэнергію, радыё, тэлефон. У перыяд правядзення падпісной кампаніі параіць кожнаму жыхару на сваім участку, якую газету ці часопіс выпісаць. Таму і сумка ў яе кожны дзень важкая — звыш 300 экземпляраў перыядычных выданняў, якія ў любое надвор'е яна дастаўляе вяскоўцам.

У кожным доме свайго паштальёна чакаюць з цеплынёй, бо Іна Яўгенаўна абавязкова раскажа, што робіцца ў свеце, раёне, вёсцы. Нягледзячы на занятасць, жанчына з увагай выслухае кожнага чалавека, пры неабходнасці дасць параду.

У Іны Яўгенаўны шмат клопатаў і па дамашняй гаспадарцы. Яна выдатная гаспадыня, клапатлівая маці двух дзяцей. З дзяцінства прывівае ім любоў да працы, вучыць быць чулымі і міласэрнымі.

**Мікалай ДУКСІН,**
**выдатнік асветы.**

**Ад рэдакцыі. Жыхары Любоніцкай зоны атрымліваюць 101 экземпляр "Кіраўца", з іх 15 — на ўчастку І.Я.Аўсянік.**

*Равеснікі*



# ЛЮБІЦЬ МАСТАЦТВА Ў САБЕ

У шматкватэрным доме мікрараёна будаўнікоў райцэнтра маленькага Іванку любілі ўсе. За дабрыню, памяркоўнасць, выдатны характар. У пяцігадовым узросце хлопчык наладжваў у двары канцэрты, у якіх выступаў галоўным артыстам: танцаваў, спяваў, дэкламаваў...

Ішлі гады, і Іван Шчытко закончыў школу, ПТВ-220. Яго артыстычная натура праяўлялася ва ўсім, актыўна ўдзельнічаў у праводзімых ў школе і вучылішчы мерапрыемствах, канцэртах самадзейнасці. А калі ўпершыню пабачыў прадстаўленне кіраўскай "Гумарыны", даў сабе слова, што ў наступным годзе і ён выйдзе на сцэну раённага Дома культуры. Так і атрымалася. Яго выступленне было ўзнагароджана заслужанымі апладысментамі, а артыстычны талент прызнаны гледачамі райцэнтра. Першы поспех акрыліў юнака, і ён паступае ў Магілёўскае вучылішча культуры. Займаецца паспяхова, бо спецыяльныя прадметы даюцца яму лёгка: дапамагае прыроджаны артыстызм. Іван іграе ў спектаклях, з якімі навучэнцы выязджаюць у раёны вобласці, выступаючы ў маладзёжных і школьных аўдыторыях. Разам з аднакурснікамі з поспехам прымае ўдзел ў фестывалі "Студэнцкая вясна-98", які праходзіў у Віцебску. Яны займаюць другое месца ў рэспубліцы. Маладога і таленавітага артыста заўважылі, запрасілі ў тэатр "Хрыстафор". Аднак прыняць гэтую прэстыжную прапанову Іван не змог, не дазволілі матэрыяльныя магчымасці. А без жылля, прапіскі замацавацца ў сталіцы складана. І Іван пасля заканчэння вучылішча едзе ў родны Кіраўск. Тут як раз вакантным было месца дырэктара Мышкавіцкага сельскага Дома культуры, і загадчыца аддзела культуры Т.Л.Галубоўская прапаноўвае яго маладому спецыялісту.

Гэты сур'ёзны крок не даўся Івану Шчытко проста. Было шмат сумненняў і ваганняў: прыняць такі вялікі аб'ект вельмі адказна. Але дапамаглі старэйшыя калегі, такія цудоўныя людзі, вопытныя работнікі, як дырэктар Мышкавіцкай школы мастацтваў У.Б.Барэйша, метадыст Мышкавіцкага сельскага Дома культуры К.А.Кіпрыянава, супрацоўнікі раённага аддзела культуры і Дома культуры. Яны дапамагалі ў распрацоўцы сцэнарыяў маштабных мерапрыемстваў, якія ў гэты час праходзілі ў калгасе "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага. Гэта 55-годдзе гаспадаркі, 10-годдзе народнага ансамбля песні "Мілавіца". Адміністрацыйную работу Іван Шчытко паспяхова сумяшчаў з выступленнямі на сцэне, і гледачам запомніліся яго байкі, гумарыстычныя вершы, выкананыя адмыслова, неардынарна, з уласцівай артысту "изюминкой". А неўзабаве юнака запрасілі на кафедру рэжысуры Акадэміі мастацтваў: яе загадчык Р.Баравік бачыў творчыя работы Шчытко і прапанаваў яму паступаць. Хлопец апраўдаў ускладзеныя на яго спадзяванні і, здаўшы складаныя экзамены, быў залічаны на дзённае аддзяленне Акадэміі, стаў студэнтам. Гэтую радасць з Іванам падзялілі яго родныя — маці і сёстры, суседзі, усе, хто ведае і любіць юнака. Дарэчы, адна з сясцёр Івана — Вольга, пайшла па слядах брата і зараз займаецца ў Магілёўскім вучылішчы культуры. Гэты талент у дзяцей ад іх маці, цікавай, прыгожай жанчыны, якая цудоўна спявае.

Сваю неардынарнасць Іван Шчытко праяўляе і пад час вучобы ў Мінску. Ён удзельнічае ў рабоце маладзёжнага тэатра, прапанаваў стварыць гурт "свабодных паэтаў", піша сам і чытае са сцэны класікаў. Пад уплывам педагогаў, сярод якіх самавітыя і вядомыя артысты рэспублікі, развіваецца талент кіраўскага юнака Івана Шчытко. І, трэба меркаваць, неўзабаве на артыстычным небасхіле з'явіцца новая зорка.

**Людміла ЛУКАНОВІЧ.**

# ВОДНАЯ ЛЮБАТА

Спакон вякоў сяляне будавалі сваё жыллё бліжэй да вады — ля вялікіх і малых рэчак, азёраў, а калі такіх паблізу не было, то самі выкапвалі сажалкі, каналы, Як жа без вадаёма? Тут табе ўсе выгоды: і рыбалка, і купанне ў летнюю спякоту, і мыццё адзення і бялізны, і вадапой для жывёлы, і зімні каток для дзятвы. А салаўіныя ночы ў прыбярэжных кустах? Усяго і не пералічыць.

Наша вёска Добасна размяшчалася над аднайменнай маляўнічай, звілістай і рыбнай рэчкай, але ўжо даўно ў старажылаў засталіся толькі ўспаміны аб ёй і душэўны боль. У выніку бяздумнага меліярацыйнага буму рэчку ператварылі ў невялікую канаву.

На шчасце, выправіў становішча былы кіраўнік калгаса "Камуніст" А.Н.Падаляк. Дзякуючы яго клопатам і намаганням іншых работнікаў у кожнай вёсцы гаспадаркі за кароткі час было зроблена па аднаму, а то і па два штучныя вадаёмы. І ў гэтыя летнія дні на іх берагах вельмі ажыўлена: тут і пенсіянеры з вудамі, і загараючая моладзь, і шумлівая дзятва, для якой вада — вялікая радасць. Глядзіш на іх, і на паперу просяцца вершаваныя радкі:

*В зарослях ракитника*
*беспечно*
*Голубым овалом*
*разлилось*
*Озеро — глубокое,*
*как вечность,*
*Светлое,*
*студеное насквозь.*
*Облаков*
*и лилий отраженье,*
*Всплески рыб,*
*встречающих зарю,*
*Камышей*
*капризное сплетенье,*
*Робкий птичий щебет*
*поутру.*
*Ни души... Но вдруг*
*песчаный берег*
*Задрожал,*
*ломая тишину,*
*Стайка голосистых,*
*загорелых*
*Мальчиков ныряет*
*в глубину.*
*Окропились*
*влагою ребята,*
*Освежились*
*ласковой водой*
*И пошли гурьбой*
*молодцевато,*
*Смахивая на*
*солдатский строй.*
*Озеро притихло*
*и искрится*
*В мареве*
*проснувшихся лучей,*
*Кажется,*
*что и оно гордится*
*Силою*
*живительной своей.*

**Виталий САВИЦКИЙ.**



*Страхаванне*

# ПАМЕР ЗАЛЕЖЫЦЬ АД РОЗНЫХ ФАКТАРАЎ



**12 чэрвеня бягучага года Прэзідэнтам краіны падпісаны Указ "Аб удасканаленні адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў", якім зацверджана новая рэдакцыя Палажэння аб парадку страхавання грамадзянскай адказнасці аўтаўладальнікаў. Указ пачаў дзейнічаць з 1 ліпеня бягучага года і накіраваны на далейшае ўдасканаленне страхавання грамадзянскай адказнасці аўтаўладальнікаў за страты, нанесеныя ў выніку дарожна-транспартнага здарэння. Згодна з Указам, уносяцца і некаторыя змяненні ў парадак страхавання, аб якіх мы папрасілі расказаць нашым чытачам начальніка раённага аддзялення Белдзяржстраху Н.І.СВІРЫДАВУ:**

— За год (як вядома, абавязковае страхаванне грамадзянскай адказнасці транспартных сродкаў было ўведзена з 1 ліпеня 1999 года) заключана 3119 дагавораў страхавання. Трэба адзначыць, што людзі паступова пачынаюць разумець выгаднасць і неабходнасць дадзенага віду страхавання, бо, застрахаваўшы ўласны транспарт, яны пазбаўляюць сябе непрыемнасцей, якія могуць узнікнуць у выніку дарожна-транспартных здарэнняў. За прайшоўшы перыяд да нас звярнуліся 15 пацярпеўшых, якія атрымалі страхавую кампенсацыю. Усяго выплачана звыш 5 мільёнаў рублёў. Пры гэтым заўважу, што сумы кампенсацыі (а калькуляцыю складае незалежны эксперт) цалкам пакрываюць расходы на рамонт аўтамабіляў, пашкоджаных у выніку аварый.

Што датычыць змяненняў, якія ўнесены ў Палажэнне, то карэкціроўка страхавых узносаў зроблена ў залежнасці ад мясцовасці, дзе знаходзіцца транспартны сродак. Новая рэдакцыя прадугледжвае павышаючыя і паніжаючыя каэфіцыенты да ўзносаў. Калі, напрыклад, у Мінску ён будзе роўны 1,3, то ў абласных цэнтрах — 1,2, у гарадах з колькасцю жыхароў больш за 50 тысяч — 1,0, у астатніх населеных пунктах — 0,8. Гэта значыць, што аўтаўладальнік-мінчанін будзе плаціць узнос на 30 працэнтаў больш за ўстаноўлены тарыф, а аўтаўладальнік-селянін — на 20 працэнтаў меншы. Гэта абумоўлена тым, што ў гарадах інтэнсіўнасць руху вышэйшая, чым у сельскай мясцовасці, а значыць, і верагоднасць узнікнення страхавога выпадку ў гарадах вышэйшая.

Узровень страхавых узносаў будзе таксама залежаць і ад якасці язды: безаварыйнае выкарыстанне аўтамабіля на працягу года прадугледжвае зніжэнне тарыфу да 10 працэнтаў, а надбаўка за аварыйнае выкарыстанне (залежыць ад колькасці дарожна-транспартных здарэнняў і ў якіх страхавальнік быў прызнаны вінаватым за год страхавання) можа мець каэфіцыент ад 0,5 да 2,0. Неабходна адзначыць, што скідкі са страхавога ўзносу за безаварыйнасць будуць прымяняцца ў выпадку, калі заключаецца дагавор на год. Прымяненне скідак і надбавак за безаварыйнае выкарыстанне транспартных сродкаў пачынаецца пры заключэнні дагавора страхавання на новы тэрмін у 2001 годзе.

І яшчэ. Калі раней існаваў парадак, пры якім заключаны дагавор страхавання распаўсюджваўся толькі на асоб, якія мелі права кіраваць транспартным сродкам па даверанасці, то па новаму палажэнню ўмовы дагавора будуць распаўсюджвацца на ўсіх законных уладальнікаў транспартнага сродку. Для гэтага іх усіх неабходна ўказаць у дагаворы страхавання.

Улічваючы, што кошт запчастак для іншамарак значна вышэйшы, устаноўлены таксама крыху большыя памеры страхавых узносаў для іх уладальнікаў. Пры выкарыстанні валюты для разліку кошту імпартных запчастак перавод яе ў беларускія рублі будзе весціся па афіцыйнаму курсу, устаноўленаму Нацбанкам на дзень складання акта аб страхавым выпадку, а не на дату дарожна-транспартнага здарэння, як было раней.

Спрошчана таксама працэдура і дакладна ўстаноўлены тэрміны афармлення дакументаў пры наступленні страхавога выпадку. Пацярпеўшы на працягу 5 дзён павінен заявіць страхоўшчыку аб страхавым выпадку, а калі ў такі тэрмін не зможа гэта зрабіць, то на працягу 3 месяцаў, але для гэтага павінны быць вельмі важкія прычыны. У сваю чаргу страхоўшчык на працягу 5 дзён павінен зрабіць запыт у ДАІ і прыслаць эксперта-ацэньшчыка.

Калі аўтаўладальнік прадаваў свой аўтамабіль, то раней яго дагавор страхавання можна было перааформіць на новага ўладальніка. Цяпер жа такое зрабіць нельга. Уладальнікі некалькіх транспартных сродкаў павінны мець дагавор страхавання на кожны з іх.

# ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ ШМАТ

26 чэрвеня ехала з Курганоў у Бабруйск на рэйсавым аўтобусе, у якім забылася сумачку. У ёй была значная сума грошай, дакументы, білеты на адпачынак. Толькі дома агледзелася, што няма сумачкі. Вядома, вельмі расхвалявалася. І якім было маё здзіўленне, калі ў той жа дзень вечарам мне пазванілі з Кіраўска і паведамілі, што рэчы знойдзены.

Пазней высветлілася, што мая сумачка з Бабруйска "заехала" ў Кіраўск, а там пасажыры заўважылі яе і аддалі вадзіцелю. Работнікі аўтапарка №14 паведамілі аб знойдзеным у райаддзел міліцыі. Праз пэўны час на вакзал прыехаў нарад дзяржурных міліцыянераў, якія вельмі хутка знайшлі праз даведачнае бюро нумар майго тэлефона ў Бабруйску і пазванілі мне.

Я вельмі ўдзячная ўсім добрым людзям, якія дапамаглі мне вярнуць сумачку. І тым, хто знайшоў яе ў аўтобусе, і тым, хто аддаў, і тым, хто разбіраўся, і тым, хто паведаміў. У чарговы раз пераконваюся, што добрых людзей шмат. І няхай усіх іх абыходзяць беды, і толькі прыемнае сустракаецца ў жыцці.

**З удзячнасцю**
**Ала ГРАМАЛЮК,**
**жыхарка г.Бабруйска.**

# БЕЗ ЛЯКАРСТВАЎ

Вучонымі Беларускага навукова-даследчага і канструктарска-тэхналагічнага інстытута мясной і малочнай прамысловасці распрацавана тэхналогія і асвоена вытворчасць новага лячэбна-прафілактычнага прадукту біфідабакт. Паводле ацэнкі незалежных экспертаў, унікальнасць прэпарата ў тым, што спецыяльныя бактэрыі, якія змяшчаюцца ў біфідабакце, аднаўляюць і нармалізуюць мікрафлору страўнікава-кішэчнага тракта. І гэта дае магчымасць пры многіх захворваннях абысціся без лякарстваў.

